ДЗЕВЯТАЕ НЕБА




## ЗНОЎКУ ГАВОРЫЦЬ НАТХНЁНА ФІДЭЛЬ

*Завяршылася сустрэча лідэраў лацінаамерыканскіх краін у Калумбіі. Хаця для абмеркавання эканамічных і сацыяльных пытанняў сабраліся прадстаўнікі з 21 краіны, на саміце дамінаваў адзін чалавек — Фідэль Кастра.*

Ён адверг прапановы Венесуэлы, Аргенціны і Мексікі аб паскарэнні рынычных рэформ на Кубе, сказаўшы, што яны недаацэньваюць гераічнае супраціўленне кубінцаў эканамічнаму эмбарга з боку ЗША. Фідэль не пагадзіўся таксама з крытыкай кубінскай дэмакратыі.

## ПАЎНОЧНАЙ КАРЭІ ПАГРАЖАЮЦЬ САНКЦЫІ

*Прэзідэнт ЗША Біл Клінтан раскрыў свае планы з прычыны ўвядзення санкцый супраць Паўночнай Карэі.*

Гэтыя прапановы на наступным тыдні будуць перададзены ў Савет Бяспекі ААН. Яны прадугледжваюць тры стадыі. Першая стадыя, якая працягнецца 30 дзён, уключае забарону на камерцыйныя рэйсы і навукова-тэхнічнае супрацоўніцтва. Калі Пхеньян будзе ўпарціцца — уступіць у дзеянне замарожванне ўсіх фінансавых аперацый. А калі і яно не дапаможа, будзе ўведзена агульнае гандлёвае эмбарга. Папярэдняя рэакцыя Парыжа і Масквы на пакет прапаноў была станоўчай.

## ДЫПЛАМАТЫЧНАЕ ПРЫЗНАННЕ

*Ізраіль устанавіў поўныя дыпламатычныя адносіны з Вашынгтонам.*

Гэта адбылося пасля сустрэчы прэм'ер-міністра Ізраіля Іцхака Рабіна і папы Рымскага. Перамовы паміж Ватыканам і Ізраілем распачаліся яшчэ ў ліпені 1992 года, але з-за палесцінскага канфлікту прагрэс дасягнуты толькі цяпер. Паводле паведамленняў, у Ізраілі пражывае 70 000 хрысціян.

## ВАЙНА З СІЦЫЛІЙСКАЙ МАФІЯЙ

*Італьянская паліцыя атрымала 370 ордэраў на арышт гангстэраў і мафіёзі пад час правядзення аперацыі супраць сіцылійскай мафіі.*

Паліцэйскія крыніцы паведамляюць, што пад следствам знаходзіцца каля 600 чалавек, уключаючы некалькі карабінераў і афіцэраў паліцыі.

## ДЖЭК НІКАЛСАН ДБАЕ АБ ПРЫРОДЗЕ

*Славуты акцёр Джэк Нікалсан праводзіць кампанію ў абарону прыроды Масачусетса, дзе натураліст Генры Дэвід Таро напісаў сваю кнігу "Вальдэн".*

Нікалсан узначаліў групу "зорак", якія ў час прэм'еры яго новага фільма "Воўк" выступілі ў абарону лясоў Масачусетса.

## ПРОЙГРЫШ ПА-КАНАДСКУ

*Паліцыя была вымушана ўжыць слезатачывы газ для разгону натоўпу, які прайшоўся па вуліцах Ванкувера, разбіваючы вокны, пераварочваючы машыны і ўчыняючы падпальванні.*

Гэта адбылося пасля пройгрышу хакейнай каманды "Ванкувер Кэнакс" у фінале кубка Стэнлі. Пацярпеў адзін паліцэйскі, якога ўдарылі разбітай бутэлькай, паранены некалькі чалавек з натоўпу.

## ФЕСТЫВАЛЬ БЕЗ СЦЭНЫ

*Майкл Івіс, арганізатар рок-фестывалю ў Гластанбэры (Англія) заявіў, што прычына, з-за якой развалілася галоўная сцэна, ніколі не будзе вядома.*

Магчыма, такое адбылося з-за перагрэву магутнай галагеннай помпы.

ПАВЕДАМЛЕННІ, АТРЫМАНЫЯ ПА КАНАЛАХ СПАДАРОЖНІКАВАЙ СУВЯЗІ "ЧЫРВОНАЙ ЗМЕНЫ"

## Тыдзень па гараскопу

### 20–26 чэрвеня

**РАК**

У панядзелак з'явяцца перспектывы ў бізнесе. Атрымаеце важную для вас інфармацыю. Не спяшайцеся закахацца.

Не ўвязвайцеся ні ў якія грашовыя аферы ў сераду. Пастарайцеся не сварыцца з сябрамі і супрацоўнікамі. Звярніце ўвагу на сваю нервовую сістэму. Магчыма ўдача ў каханні.

Паклапаціцеся аб сваім здароўі ў суботу. Больш часу правядзіце за горадам.

**ЛЕЎ**

На пачатку тыдня займіцеся вырашэннем матэрыяльных праблем. Удача ў асабістым жыцці.

Перагледзьце сямейныя адносіны ў чацвер. Не спрачайцеся з каханым.

Актыўнымі дзеяннямі ў суботу пастарайцеся пазбегнуць грашовых страт. Будзьце ўважлівымі ў дарозе.

**ДЗЕВА**

Нечакана здзейсняцца вашы эратычныя мары ў панядзелак. Верагодна вырашэнне сур'ёзнай сітуацыі ў асабістым жыцці. Фінансавыя перамены. Не верце ніякім плёткам на працы.

Звярніце ўвагу на нервовую сістэму ў сераду. Не рызыкуйце ў бізнесе.

У суботу займіцеся паляпшэннем свайго быту. Магчымы матэрыяльны прыбытак. Беражыце страўнік.

**ШАЛІ**

Займіцеся вырашэннем сур'ёзных пытанняў у прафесійнай сферы ў аўторак. Беражыце сэрца ад залішніх хваляванняў.

У сераду адкрыюцца цудоўныя перспектывы ў сардэчных справах. Наведайце даўніх знаёмых. Магчымы матэрыяльны прыбытак.

Многае будзе залежаць ад вашага асяроддзя ў суботу. З важнымі справамі лепш пачакаць. Звярніце ўвагу на здароўе сваіх родных.

**СКАРПІЁН**

На пачатку тыдня звярніцеся па дапамогу да сваіх сяброў у бізнесе. Будзьце рашучымі ў гутарках з начальствам. Верагодна перспектыва добрых заробкаў.

Асцерагайцеся захворванняў у сераду. Вырашэнне сур'ёзнай сітуацыі ў асабістым жыцці.

У выхадныя стабілізуецца становішча ў фінансавай сферы. Прыемная нечаканасць у каханні. Будзьце патрабавальнымі да сябе.

**СТРАЛЕЦ**

З'явяцца нядрэнныя перспектывы ў фінансавай сферы. Не сварыцеся з каханым. Пазбягайце новых знаёмстваў.

У чацвер узважвайце кожны свой крок у бізнесе. Спрыяльны час для інтымных адносін. Не злоўжывайце ежай.

Займіцеся спортам у нядзелю. Высокі творчы патэнцыял. Больш дыхайце свежым паветрам.

**КАЗЯРОГ**

У панядзелак займіцеся неадкладнымі справамі. Спрыяльны час для эратычных адносін. Магчымы грашовыя паступленні.

У сераду вам пашанцуе ў каханні. Пазбягайце рознагалоссяў у партнёрстве. Не рызыкуйце грашыма. Наведайце сваіх сяброў. Не ўвязвайцеся ні ў якія рызыкоўныя мерапрыемствы ў нядзелю. Цяжкасці ў фінансавай сферы і ў інтымным жыцці. Перачакайце.

**ВАДАЛЕЙ**

Будзьце ўпэўненымі ў сабе на пачатку тыдня. Рызыкуйце ў бізнесе. У інтымнай сферы не ўсё атрымаецца. Але хутка становішча палепшыцца. Сур'ёзна абмяркоўвайце кожную прапанову.

У чацвер наведайце тэатр ці музей. Не спадзявайцеся на сяброў. Нечаканы фінансавы паварот.

У суботу вам пашанцуе ў каханні. Правядзіце больш часу ў сям'і.

**РЫБЫ**

Напружаныя адносіны з бліжэйшым асяроддзем у аўторак. Не хвалюйцеся.

У пятніцу ў інтымным жыцці вас чакае ўзнагарода. Устрымайцеся ад вялікіх пакупак.

Атрымаеце добрыя навіны ў суботу. Будзьце пяшчотнымі з партнёрам.

**АВЕН**

Не давайце ніякіх абяцанняў у панядзелак. Нечаканы фінансавы паварот. Не нервуйцеся. Спрыяльны час для заняткаў спортам. Не давярайце нікому сваіх інтымных праблем.

Пазбягайце сур'ёзных рашэнняў. Перамены ў каханні. Будзьце эканомнымі ў фінансавай сферы.

Выхадныя правядзіце на прыродзе.

**ЦЯЛЕЦ**

Стабілізуецца становішча ў асабістым жыцці і на працы ў аўторак. Не лепшы час для актыўных дзеянняў.

З серады пачнуцца перамены ў каханні. Не ідзіце наперадзе ўсіх. Звярніце ўвагу на імунную сістэму.

У нядзелю не рызыкуйце ў бізнесе. Адкладзіце інтымную блізкасць на іншы час.

**БЛІЗНЯТЫ**

Нядрэнна аднавіць перарваныя сувязі з даўнімі знаёмымі ў пачатку тыдня. Фінансавая ўдача.

Не сварыцеся з супрацоўнікамі і каханым у сераду. Нягледзячы ні на што, можаце дамагчыся жаданага выніку.

Кантралюйце сітуацыю ў бізнесе ў суботу. Больш увагі ўдзяліце ўласным недахопам.

ЭСТЭТЫЧНАЯ СТУДЫЯ

# На Музычны Алімп ды на ўласных "Жыгулях"?

□ **Майя ШЭНДРЫК, "ЧЗ"**

***"Нацыянальную ідэю трэба даводзіць да людзей праз мастацтва". Словы гэтыя належаць мэру горада Маладзечна Генадзю КАРПЕНКУ. І, відаць, менавіта ўпэўненасць у іх бясспрэчнасці нарадзіла год таму Рэспубліканскі фестываль беларускай песні і паэзіі ў Маладзечна. А сёлета, з 9 па 12 чэрвеня, адбыўся ўжо другі фестываль "Маладзечна-94".***

Калі расказваць пра ўсё па парадку, то, безумоўна, трэба пачынаць з арганізацыйных момантаў, якія часам, відавочна, паўплываюць і на творчы бок справы. З арганізацыяй праблем амаль што не было. Гасцініца, талоны на харчаванне, неабходныя дапаможныя матэрыялы, значкі, буклеты — словам, тут аргкамітэт на чале з мэрам Маладзечна, як і год назад, аказаўся "на вышыні". Акрамя таго, прызы і каштоўныя падарункі былі выключна спонсарскімі, што дало магчымасць у чарговы раз пераканацца ў "непрыналежнасці" фестывалю да беднай дзяржаўнай кішэні.

Не ведаю, што на гэты конт сказалі б спецыялісты Белгідрамета, але надвор'е другі год запар вельмі сімпатычна ставіцца да фестывалю. Цёплае, хаця і не зусім чэрвеньскае сонца, безумоўна, дапамагло арганізатарам стварыць святочны настрой і "выцягнуць" маладзечанцаў на гарадскі стадыён.

Галоўным момантам свята песні і паэзіі стаў, бясспрэчна, конкурс маладых выканаўцаў, два папярэднія туры якога "адабралі" для ўдзелу ў фінале чатырнаццаць лепшых. "Клас сённяшніх выканаўцаў будзе значна вышэйшы за мінулагодні", — запэўніваў на прэс-канферэнцыі ў Мінску шаноўны маэстра Фінберг. І трэба сказаць, што гэты "клас" быў відавочным нават непрафесіяналу. Сапраўды, добрая пяцёрка выканаўцаў магла рэальна прэтэндаваць на "Жыгулі" ад фірмы "Нов і К°". Досталіся яны, як вядома, семнаццацігадовай спявачцы з Магілёва Наташы Кудрынай. І як вынік гэтай яе перамогі — магчыма, больш значны, чым самі "Жыгулі", — запрашэнне працаваць у вядомы Дзяржаўны канцэртны аркестр пад кіраўніцтвам М.Фінберга. Праўда, да самага апошняга моманту лаўры пераможцы (ва ўсялякім разе ў журналісцкіх колах) аддаваліся салістцы аркестра Фінберга — Наталлі Тамела. Моцны адметны голас спявачкі і своеасаблівая манера выканання адразу ж далі падставы бачыць у ёй пераможцу. Аднак, ці то сапраўды журы палічыла Кудрыну мацнейшай, ці то гэта была проста справа прынцыпу — другі год запар Гран-пры выйграе прафесійная спявачка славутага аркестра, — а Наталля Тамела засталася першай (і другой пасля Кудрыной), а замест жаданай "дзевяткі" ёй прапанавалі музычны цэнтр "Шарп". Як, дарэчы, і заняўшаму таксама першае месца спеваку з Рэчыцы Леаніду Вайтовічу. Добра спяваў Лёня — нічога не скажаш. Адно толькі было незразумелым — фестываль гэты прысвечаны, як вядома, і песні, і паэзіі. А таму тэксты песень не павінны ўносіць аніякіх сумненняў у чысціню сваіх радоў. "Зорка з нябёс даравала надзею..." — мілагучна выцягваў Лёня Вайтовіч і гэтым нагадаў мне свайго цёзку, былога міністра культуры сп.Вайтовіча, які год таму на "Славянскім базары" ўпэўнена сцвярджаў, што "толькі мастацтва дарує нам свята". Нібы ў падтрымку Лёні Вайтовіча гэта няшчаснае слова "дараваць" (у сэнсе "дарыць") вельмі пранікнёна выводзіла і ўладальніца Гран-пры Наталля Кудрына: "Ты мой уладар, ты даруеш мне любоў..." На вялікі жаль, словы з аднолькавым коранем не заўсёды нясуць аднолькавую сэнсавую нагрузку, як у выпадку з "дараваць" і "падарыць". А на фестывалі не толькі песні, але і паэзіі пра гэта павінны былі ўзгадаць і растлумачыць канкурсантам.

Тры другія месцы ўпэўнена занялі прадстаўніцы Віцебска, за што і атрымалі кожная па тэлевізару — Ларыса Грыбалёва, Таццяна Воранава і Алена Літоўка. Калі б на фестывалі прысуджаўся які-небудзь спецыяльны прыз за артыстызм, яго, бясспрэчна, трэба было б аддаць Ларысе Грыбалёвай. Мяккая, абаяльная, з прыгожымі і грацыёзнымі, як у кошкі, рухамі Ларыса з песняй "Я — кошка", здаецца, пераканала ўсіх, што добрая спявачка — гэта яшчэ і добрая актрыса на сцэне, якая імкнецца ўсімі сродкамі данесці песню да гледача. Што тычыцца выступленняў Тані Воранавай і Алены Літоўка, то хочацца сказаць, што арыгінальнасцю выбару песні дзяўчат не вызначыліся. І "Мелодыя кахання" і "Музыкант", безумоўна, цудоўныя песні, аднак, у іх ёсць свае выканаўцы, "перапець" якіх, на жаль, маладым канкурсанткам не ўдалося.

Два трэція месцы і відэамагнітафон з відэаплэерам дасталіся адпаведна Ірыне Дарафеевай з Магілёва і самай юнай удзельніцы конкурсу 15-гадовай Тані Каліна з Камянца.

У дзень адкрыцця свята песні і паэзіі гарадскі стадыён Маладзечна быў перапоўнены. У адрозненне ад добрасумленных канкурсантаў нашы айчынныя "зоркі" эстрады сябе не абцяжарвалі дадатковымі праблемамі — спявалі пад "фанеру". Безумоўным "гваздом" вечара стаў зямляк маладзечанцаў спявак і кампазітар Юрый Антонаў. Выказваючы са сцэны словы павагі і любві да гледача, Антонаў, тым не менш, у інтэрв'ю карэспандэнту радыё шчыра прызнаўся, што пра беларускую песню ён нічога не ведае ды і ведаць наўрад ці хоча, што "там" (маецца на ўвазе за мяжой, на Захадзе) мы нікому не патрэбны са сваёй музыкай, а Маладзечна для яго — проста месца нараджэння, і ніякая настальгія яго сэрца не кранае. Вось вам і кумір: акрамя таго, што з новых песень ніводнай не выканаў, а папулярныя "старыя" і тыя пад "фанеру", дык яшчэ не здолеў нават "паппрацаваць" на радыёслухача. Але самы кур'ёзны момант у размове радыёжурналісткі з Антонавым настаў тады, калі яна, абураная дзёрзкасцю і нявыхаванасцю "зоркі", выпаліла яму прама ў твар: "Вы, Юра, як былі маладзечанскім "калгаснікам", так ім і засталіся. Прабачце толькі, што пакрыўдзіла гэтым параўнаннем маладзечанцаў". Ну, а "калгаснік" Юра па слова ў кішэню не палез і, як звычайна бывае ў такіх выпадках, "паслаў" гарэзлівую журналістку "на тры вясёлыя літары". Абараніў гонар, так бы мовіць. Выпадкова гэта ці не, але акурат перад выступленнем Антонава пакінуў сваё "глядацкае" месца на стадыёне спадар Пазьняк. Магчыма, рускамоўныя песні не прыйшліся даспадобы Зянону Станіслававічу, а можа проста яшчэ здалёк адчуў ён "хамскую антонаўскую" душу.

Не прыехала на фестываль і "запланаваная" Лайма Вайкуле. І хаця Генадзь Дзмітрыевіч Карпенка запэўніваў, што "арганізатары вырашылі аддаць увесь час менавіта беларускай песні", больш рэальным становішчам спраў стала іншае. Лайма, як і любая цікавая жанчына, добра ведае сабе цану, а вось арганізатары, відаць, яе "недаацанілі".

Калі гаварыць пра новыя беларускія песні, якія прагучалі на фестывалі, трэба абазначыць, што сапраўдным лідэрам сярод кампазітараў стаў Валерый Іваноў. (Прыгадаю, што год назад у гэтым сэнсе "вызначыліся" Зміцер Яўтуховіч і Вадзім Сажын). Былі, праўда, і тут выпадкі вельмі дзіўныя. Так, вядомы эстрадны артыст Саша Саладуха выканаў на адкрыцці дзве песні кампазітара Елісеенкава, якія ўжо гучалі на "Маладзечна-93" і менавіта на канцэрце адкрыцця. Ці варта было ехаць на фестываль, не падрыхтаваўшы гледачу чагосьці "свежанькага"? Алег Елісеенкаў растлумачыў гэта так: маўляў, і "Каралеву" і "Заварожаную фею" гледачы ўжо добра ведаюць, таму іх лягчэй было "расшавяліць". Магчыма, і мае рацыю Алег Елісеенкаў: у краіне, дзе няма шоу-бізнесу, песням прыходзіцца гадамі ісці да глядацкага "прызнання", чаго ні ў якім разе не дапусцяць ні на Захадзе, ні ў Расіі, дзе папулярная песня жыве часам некалькі месяцаў.

Але вернемся да нашых канкурсантаў. Падведзены вынікі і вызначаны пераможцы. Як складзецца іх далейшы творчы шлях? Ці хопіць усім ім месца на зорным эстрадным небасхіле? На ўсе пытанні адкажа час. А ветлівы горад Маладзечна, са свайго боку, абяцае штогод дапамагаць маладым спевакам і спявачкам — дарыць ім цудоўную магчымасць выходзіць на яе Вялікасць Сцэну.





Фота Аляксандра КУШНЕРА.

НАШЫ ЗА МЯЖОЙ

# "Дарэмна кажуць, што туманны Альбіён. У Лондане — цудоўнае надвор'е!"

Калі шчыра, ці не хочацца вам, праглядваючы аб'явы, што абяцаюць высокааплатную працу за мяжой, спакусіцца, кінуць усё ды паехаць зарабляць сапраўдныя грошы? Мая знаёмая Ліда зрабіла неяк падобны "віраж". Паехала ў Лондан па запрашэнню знаёмых з мэтаю не толькі турыстычнай (Вестмінстэр, Біг Бэн, Оксфард), але і прагматычнай — уладкавацца на працу. Дарэчы, нелегальна, бо ў Беларусі з Англіяй няма дамоўленасці аб працаўладкаванні. Ды, дзякуй Богу, усё абышлося, бо калі б "застукалі", маглі б і з краіны "паперці".

Пакуль была эканомкай у англічанкі, муж дома трывала змагаўся і з дзецьмі, і з абавязкамі гаспадыні. Але не спяшайцеся з абурэннем ківаць галавой — заробленага Лідай за паўгода хапіла і на пральную машыну, і на халадзільнік, і на іншыя жаночыя мары — удваіх з мужам і разам з іх вышэйшай адукацыяй ім спатрэбілася б шчыраваць усё жыццё, каб набыць гэта на свае заробкі інжынераў.

З мовай было, як кажуць, "no problem" — у свой час скончыла школу з англійскім ухілам. Дый у астатнім таксама пашанцавала — гаспадыня трапілася добрая, інтэлігентная, ставілася да яе цудоўна. Нават называла не эканомкай, а, як казалі ў нас у мінулыя часы, кампаньёнкай. Дзеля справядлівасці адзначу, што і Ліда не прывыкла сядзець склаўшы рукі. Кватэра заўсёды ў яе блішчыць, у кладоўцы — слоікі з варэннем ды з іншымі смачнымі нарыхтоўкамі, а гатуе як...

Вось Лідзіны назіранні пра жыццё ў далёкай краіне, якімі яна са мной падзялілася.

* * *

"Першыя два тыдні я проста хадзіла па Лондану, назапашваючы ўражанні, дыхаючы паветрам музеяў. Гэта дзіўна квітнеючы горад. Якія казачныя ружы! А браткі квітнелі ля кафэ нават узімку. Зіма, дарэчы, даволі мяккая. І ані туману, ані смогу, пра якія столькі даводзілася чуць.

На вуліцах няма натоўпу — у асноўным усе ездзяць на машынах. Горад стары, амаль няма новабудоўляў. А вуліца — гэта адзін будынак. Твой дом — цэлы пад'езд на некалькі паверхаў.

"Мой дом — мая крэпасць", — гэта пра англічан. Яны імкнуцца, як бы там ні было, займець сваю кватэру, каб ні ад каго не залежаць. Калі ты працуеш, зрабіць гэта не так і складана. Шмат жылля здаецца — мая гаспадыня, Хелена, таксама мела два такія дамы, акрамя нашага.

Хелена была дастаткова заможнай. Інвалід, яна магла б нікога не наймаць — усю работу па дому ёй зрабілі б бясплатна. "Ёсць людзі, якім куды горш. Няхай яны карыстаюцца льготамі", — лічыла Хелена. Я ніколі не чула ад яе скарг на жыццё. Ёй было вельмі цяжка паднімацца па лесвіцы, нават рухацца па пакоі, але яна захавала чысты розум, цудоўную памяць і любоў да жыцця. Хелена часта давала сяброўкам разумныя парады. І мяне апякала і навучала.

Напрыклад, я тэлефанавала дадому і, як мы прывыклі, імкнулася хутчэй скончыць размову: "Як справы?". "Ліда, ты гэта з кім размаўляла?" — "З мужам". — "Так сурова? Ён жа чакае цябе! Каб неадкладна напісала яму пяшчотны ліст!" Дарэчы, што мяне здзівіла, там увесь час гавораць аб каханні! У Хелены быў сябар, з'яўляўся выключна з кветкамі і цукеркамі. Маладыя ж звычайна маюць "бойфрэнда" — сябра. Жывуць разам, але дзяцей заводзіць не спяшаюцца. Бацькі, у асноўным, людзі сярэдняга ўзросту. Там прынята спачатку нечага дасягнуць у жыцці, а потым толькі заводзіць сям'ю і нараджаць дзяцей.

Я заўважыла, што англічане вельмі любяць падарожнічаць, і гэта шмат хто можа сабе дазволіць, бо кошт паездак тут куды таннейшы.

* * *

На Каляды ў кожным доме ўпрыгожваецца шыкоўная ёлка, прыбіраюцца пакоі, святочны стол багаты на смачныя стравы. На Каляды ўсім прынята дарыць падарункі. Яны звычайна прыгожа загорнуты: рознакаляровыя стужкі, скрыначкі, раскошная папера, банцікі. А ў крамах — асабліва ў супермаркетах — ідзе калядны распродаж (sale): шмат якія добрыя рэчы можна купіць даволі танна.

Англійскія крамы — гэта асаблівая тэма. Там я купляла адразу прадуктаў на тыдзень, нават хлеб мы захоўвалі ў лядоўні. Дарэчы, у Хелены было шэсць халадзільнікаў. Адна лядоўня — спецыяльна для мяса, прызначанага кошцы з сабакам. Мяса мы заказвалі па тэлефоне, а мяснік прывозіў яго сам. Мне не даводзілася ламаць галаву, што б згатаваць, усе прадукты — выдатныя і побач. Не верце, што на Захадзе мала ядуць. Англічане — вялікія гурманы і любяць добра пад'есці.

Мыццё бялізны таксама не было такой праблемай, як у нас. Пральная машына і парашкі выдатна адмываюць. Калі ж у цябе няма пральнай машыны, да тваіх паслуг шматлікія пральні. Дарэчы, карыстацца іх паслугамі нават танней.

Дома мы шмат часу марнуем на прыбіранне кватэры. І адкуль толькі бярэцца гэты пыл! У Англіі — ані пылу, ані асаблівага бруду, нават у слату. Там не прынята знімаць абутак, уваходзячы ў кватэру, а падлога ў пакоях і нават на лесвіцы заслана дывановым пакрыццём.

У гасцёўні ("sitting room") вы не ўбачыце, як у нас, груваcткіх секцый. Усё стрымана, і ў гэтым сваё хараство. Гэта велічэзны пакой з камінам. Тут дзве канапы, крэслы, піяніна, пасярэдзіне маленькі столік, тэлевізар і відэа. На сценах — карціны. Я нідзе не бачыла дываноў на сценах, і калі прыехала — зняла свой. Але аказалася, што ў нас гэта — жорсткая неабходнасць. Сцены — халодныя, ад іх цягне вільгаццю. У пакоі сына, над ложкам, давялося павесіць зноў.

На многае тут я цяпер гляджу іншымі вачыма.

Запісала Наталля ПЛЫТКЕВІЧ.

## Крыжаслоў "Музыка"

**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:** 5. Балет А.Хачатурана. 6. Народны ансамбль танца Палаца культуры Белсаўпрофа, лаўрэат І Усесаюзнага фестывалю самадзейнай мастацкай творчасці працоўных. 10. Вакальна-інструментальны ансамбль Беларускай дзяржаўнай філармоніі. 11. Опера Дж. Меерберга. 12. Вядомы народны ансамбль танца Гродзеншчыны. 16. Аўтар оперы "У пушчах Палесся". 18. Народны струнны музычны інструмент. 19. Беларускі народны танец. 20. Салігорскі дзіцячы ансамбль танца. 21. Музычны твор урачыстага зместу. 25. Аўтар оперы "Кастусь Каліноўскі". 26. Горад у Польшчы, дзе праводзяцца міжнародныя фестывалі эстраднай песні. 27. Народны ансамбль песні і танца з Віцебска, лаўрэат прэміі Ленінскага камсамола Беларусі. 30. Вялікі поспех у гледача. 33. Кантата І. Лучанка. 34. Публічнае выкананне музычных твораў. 35. Фальклорна-харэаграфічны ансамбль Беларусі. 36. Італьянскі духавы народны музычны інструмент з гліны або фарфору, па гуку падобны на флейту.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:** 1. Савецкі кампазітар, аўтар вальса "На сопках Маньчжурыі". 2. Від тэатральнага мастацтва, у якім драматургічная задума раскрываецца ў танцавальна-музычных вобразах. 3. Вядомы беларускі ансамбль эстраднай песні. 4. Класік беларускай музыкі, заснавальнік яе сімфанічнага, камерна-інструментальнага і іншых жанраў. 7. Масавая народная гульня з песнямі і танцамі. 8. Гомельскі эстрадны харэаграфічны ансамбль. 9. Кампазітар, аўтар папулярнай песні "Слуцкія ткачыхі". 13. Смычковы музычны інструмент вялікіх памераў. 14. Араторыя А. Мдзівані. 15. Герой оперы Р. Вагнера. 17. Раманс Г. Вагнера. 22. Аўтар музыкі песні "Мой родны кут". 23. Народны ансамбль танца Брэстчыны. 24. Высокі жаночы пеўчы голас. 28. Вядомая савецкая эстрадная спявачка. 29. Беларускі эстрадны спявак. 31. Гераіня оперы "Міхась Падгорны" Я. Цікоцкага. 32. Знакі старарускага безлінейнага нотнага пісьма.

Даслаў В. ПІНЧУК.

### Адказы на крыжаслоў, змешчаны ў № 60

ПА ГАРЫЗАНТАЛІ: 7. Гімалаі. 9. Галавач. 12. Ганак. 14. Саман. 15. Рой. 16. Матадор. 18. Лук. 19. ПАР. 20. Бон. 21. Кац. 23. "МАЗ". 24. Сода. 25. Аніс. 27. "Золата". 28. "Мір". 30.Траска. 31. "Манас". 33. Каўказ. 34. Зайцаў. 36. Тытан. 39. Інкаса. 42. Рак. 43. Імуруп. 45. Рота. 47. Зруб. 48. Бар. 50. "Жок". 51. Вар. 52. Мак. 53. Род. 55. Лабанок. 56. Фон. 57. Казах. 59. "Расія". 60. Курасіо. 61. Сахалін.

ПА ВЕРТЫКАЛІ: 1. Мінор. 2. Сак. 3. Гавана. 4. Барока. 5. Бас. 6. Самум. 7. Гарадок. 8. Май. 10. Вал. 11. Чаканка. 13. Харбін. 16. Мода. 17. Рант. 20. Бот. 22 Цір. 24. Самавар. 26. Салагуб. 28. Мазыр. 29. Разак. 31. Мат. 32.Сан. 35. Андарак. 37. Тапчан. 38. "Сусанін". 40. "Сож". 41. Атол. 43. Ірак. 44. Тур. 46. Аказія. 47. Званок. 49. Розум. 52. Мосін. 54. Дар. 56. Фал. 58. Хан. 59. Рай.

